*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЁВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЕСНІ“

№ 14. Серада 29-га чэрвеня 1927 г. № 14.

## Люблю сенажаць

В. Каліноўскі

Люблю сенажаць, калі ў вечар маўклівы
Замоўкнуць сталёвыя косы.
І ціха так ціха наўкола нудлівы
Лажыцца туман на пакосы.

* * *

І вось мне заўсёды, заўсёды так люба
Хадзіць у зялёным прасторы,
Дзе чуюцца песьні стагодняга дуба,
Дзе зьяюць маўклівыя зоры.

* * *

Дзе шчыраю ласкай і кволасьцю шчырай
Цябе абдае вецярок,
Дзе з збожжа прыветліва міла
Блакітны глядзіць васілёк.

* * *

Дзе хочацца буйныя сілы пакласьці
За волю і долю краіны,
Дзе верыцца мне ў сталёвае шчасьце,
У грукат матору-машыны.

* * *

Дык вось мо‘ таму, мо‘ загэтым так люба
Хадзіць у зялёным прасторы,
Дзе чуецца песьня стагодняга дуба,
Дзе зьяюць маўклівыя зоры.



Сушаць сена

# Люблю, як выплыўшы з-за гораў...

**Х. Сьвірыд**

Люблю, як выплыўшы з-за гораў,
Тчэ сонца золатам узор,
Асьвеціць мілыя прасторы,
Асьвеціць шумны сіні бор.
Калі над рэчкаю хвалістай
Туман зьвісае ў берагох
І сьцеле ў росах серабрыстых
Дываны траваў на лугох,
Калі бярозы ў пазалоце,
У пералівах грае ліст,—
Люблю выходзіць за сяло, дзе
Дзяцінству мы вянкі плялі.
Там я пакінуў успаміны
Гадоў дзяцінства залатых,
Там, знаю, родная, па сыну
Сумуеш часта ў полі ты.
Ды ня сумуй-жа дарагая,
Ня лі з душы жалобных слоў.
Глядзі, вясна жыцьцё ўбірае,
І я прыду ў вёску зноў.

# Ў касавіцу

**Міх. Багунец**

Зьвініць, пяе каса
Пад моцнаю рукой,
Сьлязьмі цячэ раса—
Іскрыцца над травой.
Ў залатых палёх,
Дзе май вянкі завіў,—
На сонца чэрвень лёг
Ў прывольлі жоўтых ніў
У жыце васількі
Ўсплылі блакітным сном,
А песьні ў вянкі
Спляліся ясным днём...
Няма ў грудзях тугі—
Надзеі зацьвілі;
А навакол—лугі
Абрусамі ляглі...
Сьмяецца сіні дзень,
Сьціхаюць песьні кос;
Бадзяка-авадзень
Паплыў праз сенакос...
Сьмяецца сонца твар—
Гаворыць штось бяз слоў,—
Рака лягла ў абшар
Разложыстых лугоў...
І ціхі хваляў бег
Раджае ціхі шум,—
На вуснах шчыры сьмех—
Адбітак цёплых дум...
За рэчкай лес прылёг,
На вёску кінуў цень,—
Агністы, ціхі дзень
Гуляе ў палёх...
Як толькі сьціхне жар
Праменістых нябёс—
Ізноў патоне лес
У звоне срэбных кос...
І закрасуюць сны,
Пальюцца песьні ўдаль,
Заблудзяць ў лес яны..
У шоўк зялёных хваль...

# Жыта красуе

**Пятро Глебка**

Алесь доўга сядзіць на ўзьмежку дарогі і думае. Аб чым думае,—цяжка згадаць, ды і сам ён не адкажа. Вось сядзіць і любуецца, як жыта красуе... Можа і нічога цяпер ён ня думае, а глядзіць проста на жытнія прасторы, глядзіць, як жоўты пыл пахуча дыміцца ў павевах паветру.

Люблю, калі красуе жыта: тады яно ня звоніць, а глуха і цяжка шуміць.

Жыта красуе...

— Ага,---адказвае Алесь і зноў маўчыць і не глядзіць нават, хто гэта да яго зьвярнуўся. І дастае з кішэні тутунь.

— На, закуры,—кажа ён, даючы Цімоху тутуню, а сам зноўку глядзіць і думае ці можа толькі глядзіць, глядзіць далёка кудысьці, аж за гэтыя абшары жытоў.

— Трэба закурыць, бо камары, ліхенька, узяліся перад захадам—разв요жае сам з сабою Цімох.

Ён садзіцца воддаль Алеся, садзіцца ў той бок тварам, куды дарога вядзе на могілкі, садзіцца і сухімі пальцамі перабірае ў руках папяросу. Гэтыя доўгія пальцы дрыжаць, аж зьвіняць здаецца,--гэткія яны сухія.

Цімох—родны брат Алеся. Бацька пакінуў іх гаспадарамі, калі малодшаму---Алесю і дзесяці год ня было. Гаспадарка была не малая, а працаваць цяжка ня прыходзілася: сам ня зробіш, людзі зробяць. Так і было. Выйдзе Цімох у поле, улажыць рукі ў кішэні да пасьвіствае, а людзі працуюць.

— Чаму ты нічога ня робіш—запытаюцца часамі суседзі:—гэта-ж найміт гэтак дорага каштуе.

— А што ў мяне ня хопіць заплаціць? Хопіць на мой век,—адкажа Цімох і ўсьміхаецца сабе. А зьбярудца сяляне дзе на сходзе, дык толькі і гаворкі, што аб Цімоху.

— Ах, папаў ты сабе Цімох, канюка... ўадолга

## На змагаровых могілках

**Юліюс Янօніс**

Пасьцілайце шум ваш, хвоі, пасьцілайце,
Тым, ля ног што вашых спачываюць ціха
У абоймах зімніх нашай шчырай маці.
Шум і памжа скажуць краю хай пра ліха
Тых гэрояў волі, што ляглі так блізка,
Калі калыхалі раніцы калыску...

Зашумеў сасоньнік, застагналі хвоі:
Быццам тая маці ля труны сыновай
Скардзіцца да плача, жаліцца ды сквіліць,
Ў роспачы з пякельным рогатам імклівіць

На зямлю, апырсканую кроўю шчодра.
Шум наземіць хвоі, хвоі-змрок ускоўдрыў...

Помсту обвяшчаюць хвояў гонкіх шумы,
А на небасхіле—золкасьць, чмарнасьць, шума...
Апранае сэрца думку ў помсты зброю,
Ў патаёмнай памжы абяцаюць хвоі.
Кару вінавайцам змагаровай сьмерці...
Ў шапаценьні хвояў—блаславёленьне сьмерці...

З літоўскае пераклаў У. Дубоўка.

## Ты ня слухай лісьця!

**Ізраіль Плаўнік**

Ты ня слухай лісьця,
Што зьвініць чырвонцам:
Ў гэтым шуме-звоне росьціцца журба.
Не глядзі на хмары,
Што глытаюць сонца:
Гэта чар асеньніх злая варажба.

———

Ня вучыся песень,
Што заводзіць восень
Гэта скогат-рогат блудніцы-савы...
Не глядзі на неба,
Што губляе просінь,
Запануе сэрцам сум, як дзед, сівы.

———

Паглядзі наперад:
Золак залаціцца,
Залаціцца золак мэты веснавой...
І красуюць думкі
Русаю пшаніцай,
Русаю пшаніцай, сочнаю травой.

———

Паглядзі наперад:
Ружавее раньне...
Верасень... А сэрца—птушкай рвецца
ўвысь!
Мэта і дзяўчына...
Радасьць і каханьне...
На жыцьцёвых гусьлях грае салавей.

———

І зазвоняць струны
Верасьнем шматзвонным...
Панясецца песьня—пачуцьця зярно...
І зазвоняць струны,
Заплятуцца тоны...
Заплятуцца тоны ў сонечны вянок.

---

Проста лялька--заўважыць хто небудзь.

— Гэта, гняды гэты?—запытае другі.

— Але—адкажа першы,—удалы канюк...

— А колькі ты за яго ўсыпаў—пацікавіцца трэці,—пэўна каля сотні?!

— Хо-хо, засьмяецца Цімох,—так і возьмеце за сотню. Паўтары аддаў.

— Іх, і ах! зьдзівяцца ўсе —гэткія. грошы?!

А што там грошы, дела набытное. Вось заўтра прадам вагон жыта, дык трыста рублёў і ў кішэні.

Любіў пахвасьціцца Цімох: і за каня ён паўтары сотні не аддаў і вагону жыта ў яго няма, але гаворыць... Праўду кажучы, жыў усё-ж ня бедна.

Гады ішлі і гаспадарка Цімоха мацнела. Алесь падняўся такі, а хлопец ён быў працавіты,—змалку прывык. Сам Цімох ажаніўся, дык і баба помач у гаспадарцы. А, як той казаў, каля гатовага пню ўсякі дурань агню разложыць. Так і гаспадарка Залюкаў, пры бацьку была нішто, дык і пры сынох узрастала. Але вось пачалася война. Алеся забралі ў армію, найміт падаражаў і пачалі Залюковыя палосы зарастаць лазою ды пырнікам.

— Чаму ты, Цімох, поле запускаеш, — скажа часамі хто небудзь з суседзяў.

— Э-э на мой век хопіць—махне рукою Цімох і жыве сабе ні аб чым ня думаючы.

Няшчасны і прапашчы той чалавек, які жыве толькі сёньняшнім днём, ня думаючы ні пра будучыню, ні нават, пра мінулае. Таму толькі людзі і жывуць, што зямля ня мае канца. Добра што яна круглая: колькі ня йдзі, ніколі ня прыдзеш да мяжы чалавечага імкненьня, ніколі ня знойдзеш канца дарог сваіх.

Усё, што тварылі вякі, вякі і руйнуюць, а ўсё што створана ў адзін дзень, зруйнуецца ў адну хвіліну.

Невядома калі і як раск далася гаспадарка Залюко вых—няпрыметна ішло хутка гэта руйнаваньне Праз тры-чатары гады, кал



## На сенажаці

А. Сечка

Ружовасьцю усход укрыўся,
Раса серабрыцца ў траве,
Хвалі гуляюць у прасторы
Ад сну ўсё ўстае і гудзе.
Сонца пускае праменьні
Плыве і плыве ўсё вышэй.
Касцы падняліся на ногі
Косамі махаюць хутчэй.
Сонца ўгару паднялося
Так паліць яно і пячэ,
І поле—прасторы—прасторы,
Касцы ўсё махаюць ў прасторы
І пах ад калосьсяў цячэ.

## Сонейка нізенька

Беразоўскі

Сонейка нізенька
К захаду коціцца.
Ночанька блізенька,
Хмаркі залоцяцца.

Рэчка крывенькая,
Рэчка гамонкая,
Прыдзе міленькая
З песьняю звонкаю.

Сонца схавалася
Дзесьці за горамі,
Нема ўкрылася
Яснымі зорамі.

Ціха ўздымаецца
Вечар з туманамі,
Дуб аблымаецца
З сосная заспанаю.

Вольхі з бярозамі
Дрэмлюць галінамі,
У шэрані з лозамі
Вербы загінулі.

Зорка скацілася
Ў шэрань, мігаючы.
Вось ідзе мілая
Песьні сьпяваючы.



людзі станавіліся да новай працы, Цімох адзінокі, зьбяднелы стаяў перад сваёй пахілаю хатаю і ўступаў таксама ў „новае жыцьцё“—жыцьцё не сягоняшняга дню, а гэтай хвіліны. І цяпер вось перад намі сядзіць той самы Цімох і перадае Алесю, свайму брату, касьценнымі пальцамі тутунь.

— Закурыў? пытае Алесь.

— Агню трэба.

Алесь дастае з кішэні запалкі і ня гледзячы на тое, што няма ветру, унурваецца і шчыльна зложыўшы рукі ў прыгаршчы паліць запалку.

— Прыкурвай.

Дрыжачымі рукамі Цімох падносіць да губ папяросу, ня можа ўзяць яе ў губы, бо галава і рукі хістаюцца аднячасна, але ў розныя бакі.

— Скарэй бо, стухне... Узяў у нядзелю дзесятак, дык на два тыдні і ня хопіць. А тут жніво падходзіць трэ' сярпы падзубіць. Чорт іх з гэтымі грашыма—не спагоніш... Эт-т-т, са злосьцю, заўважвае Алесь:—такі стушыў. Ён адчыняе пачак, глядзіць, як-бы лічыць колькі там застаецца, дастае запалку і зноў запальвае. Не шкадуе Алесь запалкі, але беражэ кожную, як гаспадар, кожнаю дарожыць. Такая ўжо ў яго натура. У яго і грошы ёсьць, але аб гэтым ён ня скажа нікому. Ён ня зьбірае грошай, не хавае іх у гаршчок, але на патрэбу мае і пазычыць не адкажа.

— Можа-б ты, Алесь, рублёў дзесяць грошай пазычыў,—запытайцеся вы ў яго.

— Чорта, братка, дзе тыя грошы, але ў рэшце пагляджу,—скажа ён, абавязкова, і зараз-жа дастане вам і дасьць дзесяць рублёў.

Ах гэты Алесь,—гаспадарлівы ён чалавек. Глядзі якую гаспадарку нажыў, а прышоў з арміі ў дваццатым годзе,—ні кала, ні двора ня было. Усё ад прабоя да кафляных пячэй сам нажыў, без усялякіх хітрыкаў, уласнаю працаю. Дзіўная натура гэты Алесь, скрытая натура. Разьбядуйцеся вы, што няма хлеба ці сена і ён вам будзе памагаць.

— Але... і ў мяне сёлета —капа, ня болей сена, скажа

# Надзеі

Я. Гэрмановіч

Надзеі, мілыя надзеі!
Надзеі, сэрца лятуценьні...
Я вас у сэрцы вечна грэю;
Ня дружны з вамі чорны цені.

Як гора ці ўцеха нахлынуць
Магутнай хваляй у грудзі юнацкія—
Сьлёзы змываюць горкую муць
І родзяць песьні ваяцкія.

Песьні бадзёрыя вецер
Падхопіць на ўлоньне свавольна,
Прасьпявае шумна вецьцем
Ці траўкай у стэпах прывольных...

А песьні шчырыя з сэрца
Адчуюць напэўна і людзі;
Заўтараць з ветрам ад сэрца,—
І песьня вечна жыць будзе!..

Ах, песьні! Песьні-надзеі...
І колькі ў тонах чуць веры!
Якой ня ўкрадуць зладзеі—
Буры, нягоды не разуверыць!

Надзеі, вечныя надзеі!..
Надзеі, сэрца парываньні...
Я вамі сэрца вечна грэю—
Іду ў прасторы, што прывабны.

# Белыя паляны...

Кляшторны

Белыя паляны, белыя гаі...
Пчолы ледзяныя кружацца ў гальлі,
Кружацца раямі, сыплюцца на дол
Апушылі хвоек срэбраны прыпол.
А з-за лесу-гаю скача па лугах
Хтось-ці незнаёмы ў ледзяных санях.
З сіняватай далі, з сіняватай цьмы
Хтось-ці навевае залатыя сны.
Месяц кучаравы, між сівых завей
Блудзіць над барамі, блудзіць як зладзей...
Хай галосяць ветры ў цемрані начной;
Сядзем дарогая,—пасядзім з табой.

Раскажы мне шчыра, праўду раскажы ,
Хто ў чароўных вочах зоры патушыў?!
Хто замёў сьнягамі у душы вясну,—
Сэрца хто параніў,—вымяў цяплыню?!
Хто расьпяў з каханьнем сэрца на крыжы?
Раскажы мне праўду,—любая, скажы!
І маўчаць пацёмкі... Любая маўчыць...
Ледзянеюць словы,—і душа баліць.
Белыя паляны, белыя гаі...
Пчолы ледзяныя кружацца ў гальлі.
І мярцьвеюць змрокі між сівых завей;
Прытуліся бліжай,—сэрца абагрэй...

---

ён,—ды і хлеба да вялікадняці хопіць. А на назаўтра прыдзеце і скажаце:

— Можа-б ты, Алесь, пазычыў пудоў са два сена, ці з пудзік жыта.

— Ня ведаю, брат,—скажа ён,—сабе вобмаль, але паляджу; калі ў цябе зусім няма, дык, хаця і ў мяне ня шмат, усё-ж трэба даць.

І дасьць, абавязкова дасьць Вось які гэты Алесь.

— Ах, трэба ісьці коням сечкі замяшаць, бо сонца заходзіць, дык павінны скора з пашы прывесьці—кажа Алесь і ўстае.

— Пойдзеш? — пытаецца не падымаючы галавы Цімох.

— Але... А жыта ўсё-ж ня вельмі што-як-бы—сам заўважае Алесь. Яшчэ ў Рыгора нічога, а маё дык падкачала нешта. Ён праходзіць па дарожцы да суседняй паласы і глядзіць, як бы раўнуе з сваім, на Рыгорава жыта.

— Гною мала, вось што. Трэ‘ будзе налета пад ячмень падвезьці на гэты самы—робіць ён для сябе самога вывады і павольна мурожнаю мяжою ідзе на прыгуменьне. Пастаць яго сярод жыта вылучаецца ясна і павявае нейкаю ўпэўненасьцю ад яе і ад гэтай яго хады—роўнай і цьвёрдай.

Цімох усё сядзіць яшчэ на дарожцы, нярухома, бы застыглы. Так як і жыве ён, адзін. Заходзіць сонца; яго доўгія косы апусьціліся нейкай лёгкаю сьценьню на гэтыя прасторы жытоў і таму здаецца, што жыта адкрасавала. Толькі пах, вільготны, росны!

Жыта красуе...

*
* *

Праз накалькі дзён Цімох памёр. Памёр ціха, спакойна, ні кім ня прыкмечаны, як і жыў апошнія часы. Калі памёр, досьвіткам, ці шэраю гадзінаю; у поўдзень, ці ў поўнач—не вядома. Памёр на печы.

Шмат дзён праляжаў Цімох на гэтай печы, ой, шмат... Зімою, бывала, дык ня злазіць цэлыя дні і ночы.

Вясною таксама рэдка, але летам затое часьцей пакідае ён печ, часьцей выходзіць на двор, часьцей сядзіць на

# Вясна[1])

Л. Калюга

— Бачыць. Каб яму вочы на лоб вылерла,—ціхенька кажа Вінцэсь.

Залілі агонь і спаважна пашлі адзін за другім да будынку, як бы нічога й ня ведаюць і ні ў чым ня грэшныя.

Франак пашоў у хату. А Вінцэсь астаўся каля сьцежкі, каб стрэцца з Тодарам.

Марнуючы час, з мінаю добрага знаўцы, абглядаў вуглы пузатага будынку, што больш ста коп глытае восеньню ў свае зявы; барабаніў шчыкалаткамі аб сьцяну, як-бы гэтакім манерам умеў знайсьці нейкі таемны, а, разам з тым, і практычна-неабходны сакрэт.

І толькі параўняўся Тодар, ён кінуў свой занятак і абярнуўся да яго тварам.

— Дзень добры!—прывітаўся Тодар.

— Пачакай! Куды сьпяшаеш?—спыніў яго Вінцэсь, каб слова-другое закінуць і дазнацца, ці бачыў той яго каля агоньчыку.

— Трэба ў вёску даведацца,—неахвотна здаволіў Тодар Вінцэсяву цікавасьць.

— Вясна йдзе,—падтрымліваўся зьбіўшыся з гаворкі Вінцэсь.

— Але. У нас і ў таку і ў хаце чуваць яна. Сена на рэзьгіны адразу забярэш. У хляве авечкі бляюць, карова рыкае. На печы дзеці ў кулак трубяць, есьці просяць...

— Яно то гэтак,—ні то ў бядзе параду даючы, ні то холадна заўважваючы факт, падцьвердзіў Вінцэсь. У яго, дык сена да Міколы хваціць, а хлеб яшчэ й засекі Ёсялявага шпікнэру папоўніць. Толькі й тых клапот, што пра сягоняшнюю бяду, ды пра абрэзкі, дзе тры скулы як з пад зямлі вырасьлі і колюць яго зрэнкі.

— А можа-б, пане - дзядзьку, які-б пудок пазычылі?—на спробу закінуў слова Тодар і з пытлівым поглядам заўняўся на яго аблічча.

— Яно то можна было-б,—па слову выціскаў Вінцэсь. Тут яму і бровар на памяць усплыў, непакой быў у гэтым пункце ў яго сумленьні. Каб ні гэтая бяда, ён-бы іначай загаварыў!..

— Вось хіба, нябога, прыдзі там па таей нядзелі. Тады пасуседзку памяркуемся. Яшчэ з сваяўством, як мае быць, не разьлічыўся. Анупрэй касіў. Дзянісіха прызьбе каля хаты. Доўга любіў сядзець Цімох на прызьбе. Сядзе бывала раніцаю, калі сонца ўсходзіць і сядзіць цалюткі дзень, вялікі летні дзень. Думае, што Цімох, калі сядзіць, ці ня думае—цяжка сказаць. Паглядзіш на яго і не згадаеш, папытаеш—адкажа іншае, а то нічога не адкажа, а ўсё глядзіць і глядзіць на зямлю, глядзіць напружна, ня міргаючы, у адну кропку глядзіць.

Хата Цімоха мае ня лепшы выгляд, як і гаспадар. Страха ўвалілася, зьмяшалася з пяском і на ёй ўзрастае маладая, высокая бярозка. Вокны пазатыканы анучамі, пазабіваны дошкамі, але дзірак яшчэ ў іх ня мала. Сам Цімох не заложыць гэтых дзірак ніколі, быццам-бы іх і ня бачыць, а мо' і сапраўды ня бачыць... Людзі добрыя і вокны пазабіваюць, і печ у хаце напаляць, але Цімоху гэта ўсё роўна—не адчувае ён гэтай людзкой дабраты, не адчувае і ня можа... Мо' таму не адчувае ён спагады, што і холаду, і голаду ён ня адчувае. Будзе ляжаць цэлы тыдзень на печы, на халоднай.

Было пастаноўлена вяскоўцамі пахаваць Цімоха паномаму. Вясковы коопэратыў адпусьціў дармова некалькі мэтраў паркалю на апошняе ўбраньне чалавеку. Сяляне павінны былі сабраць дошчак на труну, зрабіць яе, выкапаць дол.

Калі зьвярнуліся да Алеся, каб даў дошчак, пачулі звычайнае:

— Братка, дзе тыя дошкі, а ўрэшце пагляджу. Алесь пашоў на прыгуменьне, дастаў з-пад страхі дзьве чыстыя, стрыжнёвыя дошкі і панёс на двор да Цімохавай хаты. Зайшоў у хату, глянуў на печ, дзе ўсё яшчэ ляжаў нябожчык, глянуў так, як быццам-бы там нічога і ня было, павярнуўся і вышаў. А калі на дварэ спаткаў мужчын, дык загаварыў зусім пра іншае, пра сваё, нат' і ня ўспомніўшы пра сьмерць, быццам яе зусім ня было. Наогул, сьмерць Цімоха нікога ня ўстрывожыла, нікога не ўзрадавала, нікога ня прымусіла тужыць.

[1]) Пачатак глядзі „Ч. Сейбіт“ № 13.

жала. Трэба і іх ня мінаць. Ат! Памяркуемся...

Гэтага тольні й чакаў Тодар.

Разышліся.

Сьмех бегаў па губах Вінцэся, расплываўся ў прыветную ўсьмешку. Здаволены быў. Думкі ўзварушыліся, як сьняжок пасьля мяцеліцы.

„Лес ня ровен, трава ўсякая і чалавек—гэта самае,—кажу я і ўсе разумныя людзі.

Падохнеш галытра акаянная.

І ангельцы, француды, палякі не даюць храпунца. Яны на нас углядаюцца, ды яшчэ як.

Здавалася Вінцэсю, што Польшча, Ангельшчына, Францыя вытрашчыўшы вочы па яблыку пільна ўзіраюцца ў Савецкую Краіну і бачаць у ёй аднаго яго, ды яшчэ, можа, Анісіма Стажэвіча. І цякуць, коцяцца на шырокае чэрава іх буржуйскія сьлёзы, бо бачаць, як абрэзка гняце Вінцэся Анбражыцкага і Анісіма Стажэвіча.

Ой пагоняць. Аж пыл закурыць,—цешыць сябе Вінцэсь і памаленьку, калышучыся йдзе ў хату, каб загадаць сыну барджджэй брацца за спыненую справу. Хто-ж яго ведае? Гатоў падкусіць. Можа ён з тым толькі й пашоў.

Па дарозе глянуў у ток.

Рыжаю лысінаю сьвяцілася старана саломы. З другога боку зелянела сена, як бы толькі што прывезенае з лук.

Радасна стала.

Але сьледам за ім горкасьць салоным квачам лезла ў душу. Успомніў абрэзкі.

* * *

Пад вечар Вінцэсь вышаў з рэзьгінамі на гумно ўзяць сена з таку каровам.

Бачыць—ідзе па дарозе ля гумён нехта з мехам за плячыма.

Пазнаў Тодара.

— Адкуль гэта?—з далёк папытаў Вінцэсь.

— З бядняцкага камітэту,—адказаў той і мінуў Вінцэся, не сказаўшы больш ні словы.

— Бачыш вужаку! Ужо ён і шапкі ні мерыцца зьняць. Ліха іх хай возьме! Сабака сабаку зьнюхае—праводзіў яго думкамі Вінцэсь.

Пазіраючы на бакі Тодар мерае гаспадарскім вокам шырыню Вінцэсявага поля. Імчацца думкі стройнымі чародамі.

Вось мы ўкаранімся тут. Тады падзівіцца сьвет.

З гэтым абшарам нам саўладаць плёвая справа.

**Вёска Скварцы. Меншчына.**

---

Ня верыцца, нават, што чалавек можа так пражыць усё сваё жыцьцё, не зрабіўшы нікому ні добрага, ні кепскага...

Ня верыцца, што чалавек можа прайсьці ўвесь жыцьцёвы шлях, не крануўшы яго, не пакінуўшы сьлядоў на ім і не забраўшы з яго за нагамі, нават, пылінкі.

А Цімох так пражыў, ня прычыніўшы нікому ні радасьці, ні гора...

Калі несьлі труну, гаварылі чамусьці ўсе аб сваім блізкім, што кожнага турбавала, непакоіла, радавала і словам не памянуўшы пра пакойніка, быццам гэта была не жалобная процэсія, а простая, звычайная пагулянка.

Труну апусьцілі, засыпалі, нязграбна згарнулі на версе кучку пяску, палажылі палачку, і зноў загаварылі аб сваім, рушылі з могілак...

Так можна пражыць жыцьцё, тое жыцьцё, за якое змагаюцца людзі, праліваюць кроў, пакідаюць крывавыя сьляды да лепшага, да будучага, пакідаюць векавечныя помнікі,—вось гэта жыцьцё можа пражыць чалавек так, што быццам-бы і ня было ні чалавека, ні яго жыцьця. Так можна пражыць жыцьцё.

Назад, з могілак, мужчыны пашлі ня вуліцаю, а сьцежкаю. Па адзін бок сьцежкі роўна выстраіліся гумны новыя, старыя. На стрэхах некаторых парос зялёны мох, а некаторыя ярка гарэлі на сонцы сьвежа-пакрытаю саломаю. Па другі бок сьценкі калыхалася павольна роўна жыта.

І ў кожнага ў іх былі свае жаданьні, свая будучына, свае лятуценьні... Вось яны ідуць гавораць здацца аб звычайным, а з такім захапленьнем, з такою радасьцю глядзяць у сваю будучыну.

Далёка ўжо чуюцца галасы мужчын, далёка, але зусім ня зьнікаюць. Мне здаецца, што гэтыя галасы, іхнія думкі шалясьцяць вось у гэтых зялёных чупрынах. Гэта жыта павольна ўзьнімаецца, і зноў нахіляецца,—хвалюецца ў ціхіх, магутных павевах. А лёгкі вецер, быццам пыл, цярушыць над палеткамі пахучую, жоўтую мітульгу. Жыта красуе...

# Млын

## І. Прыдарожны

У нядзелю раніцай свайму мужыку Андрэю, Марыля гаварыла:

— Калі хочаш пасьпець на адчыненьне млыну, дык вот еш скарэй, а то спозьнішся... Унь ужо ўвесь народ пашоў...

Андрэй, кончыўшы сьнедаць, уцёр рукавом успацелы лоб, вылез з-за стала, узяў у рукі шапку і вышаў на вуліцу і пашоў да млыну.

На рацэ Альхоўцы стаяў вялікі млын. Запыленымі мукой вокнамі глядзеў ён на рэчку Альхоўку і зялёны выган, які быў на той бок рэчкі. Калісь даўно пабудаваў яго тут пан Закрэўскі. І працаваў ён на пана сьмела і сумленна. Потым перайшоў ў рукі да купца Фрыда. І Фрыду таксама працаваў, не адказаваў. Працаваў і ўсё глыбей і глыбей садзіўся ў сваю добрую рэчку, нібы хацеў зусім схавацца ў яе ад гэтага сьвету. Але час прашоў... Усё зьмянілася...

Сёньня па дарозе ідучы да млыну Андрэй бачыў, як блішчэла на сонцы новая страха з гонты. А вакол млыну народ. Вечны таварыш млыну—мост, сёньня новы, неяк горда трымаў на сабе гэтую грамаду.

Сёньня ў гэту нядзелю народ сабраўся да старога млыну. Сабраўся на яго ўрачыстае адчыненьне. Роўна тры месяцы таму назад гэты млын перашоў з рук Фрыда ў рукі Асінаўскага спажывецкага таварыства.

Перашоў і зразу стаў перабудоўвацца.

Падышоўшы да самага млыну Андрэй бачыў над дзьвярыма яшчэ зусім з сьвежай фарбай дошку, ня якой было вялікімі літарамі выведзена:

„Млын Асінаўскага спажывецкага таварыства“. Прачытаўшы ён неяк міжвольна ўсьміхнуўся. З другога боку, ля вугла, ён убачыў на скорую руку зробленую трыбунку з новых дошчак. Чатыры зялёных елачкі красілі яе, якія былі прыбіты па вуглох. Агляиуўшыся назад на другі бок вуліцы, ён убачыў ужо канчаткова адбудаваны заеждны двор пры млыну. Ня ўсьпеў Андрэй яшчэ раз зірнуць на млын, як на тую самую трыбунку ўзьлез старшыня іх спажывецкага т-ва Кір'янчык. І тады ад яго паліліся словы:

— Вот, таварышы, цяпер гэты наш млын ужо настаяшчы наш. Мы падиавілі яго. Паднавілі бяз Фрыдаў і Закрэўскіх.

Застаўка млыну мерна паднялася. Вада хлынула. Ударыла ў лапаткі кола, яшчэ... яшчэ... і паварнуўся жалезны вал, крутнуліся колы і зашалясьцелі скураныя паясы і стары млын запеў сваю песьню. Закруціліся жорны і сталі церці буйныя зерні на мяккую муку.

Народ абглядаў усе віньцікі, гаячкі, калёсы. Прыслухоўваўся да яго шуму і тахту.

Гаварылі:

— Вот так малайцы нашы хлопцы! Адбудавалі...

А вада бурліла і варочала ўсё нутро млыну.

Андрэй, вышаўшы з млыну, глядзеў на шырокае возера, якому шлях перагарадзіла грэбля, на новы мост, на млын і думаў, як тры месяцы таму назад прыходзіў ён сюды на заработкі, убіваў, стоячы на мяккім і сырым пяску, палі.

---

# Пад старою бярозаю

## М. Пасьлядовіч

Шукаючы качак, мы далёка забраліся ад вёскі Брады, у самую глуш.

За поўдзень хадзьбы, па гразкім балоце ногі парабіліся як алавяныя, а сямізарадная стрэльба за плячыма здавалася непамерным цяжарам.

— Ну, і гарачыня!

Стары Апанас абцірае рукавом мокры ад поту твар. Потым абарачваецца ў бок пройдзенага балота і махнуўшы рукою, кажа:

— А дай ты рады! Такую сьціжму балота прабралі, каб яно агнём пашло! Ні табе сяла, ні табе зьвярыны...

Пралупцавалі пэўна вёрст дваццаць, а на кожную стрэльбу прышлося па тры качкі, ды некі дурны бакас падвярнуйся пад маю ламачыну...

— І сапраўы, дзядзька Апанас, ня стрэльба ў вас, а нейкая ламачына—пачаў кпіць маладзейшы з нашай хэўры—Паўлюк Сьвістун.—Вашаю „цантралкаю“ сьмела можна папасьці замест аднаго канца пуні ў другі. Страляеце па зайцу, а пападаеце ў варону...

— Ты сам варона! Ну, папробуй стаць на паўсотню крокаў, няхай паглядзяць; пападу я ў тваю „пуню“ ці не?..

Мы сьмяёмся з жартлівых кпінаў Сьвістуна, потым, калі іх пакрыў Апанас, сьмяёмся яшчэ мацней, хапаючыся за жываты. Зморанымя ногі ня трымаюць нас больш і мы валімся на мяккае імшыстае куп'ё

... Гаў, гаў... ях, ях, ях...

Зморанасьці, як ня бывала. У руках зноў стрэльбы і мы глядзелі ў той бок, дзе „Жук“ і „Лыска“ з трэскам шныпараць у заросшай кустамі лагчыне.

Хутка адтуль, ціха крэкчучы, вылятае качка. Стрэлілі па ёй у чатырох—і невядома дзе яна дзелася, паляцела, ці зусім яе разарвала шротам.

Клічам сабак і выходзім на высокі ўзгорак, увесь заросшы бярэзьнікам. Выбіраем мейсца ў цяньку старой сукаватай бярозы і хутка прымаемся вытрасаць з торбаў, што там годнае для яды напхана.

— А тут мусіць некалі ласі вяліся—пачынае гаворку Сьвістун,—бо месца для іх вельмі выгоднае: вялікае балота, а па ім шмат грудоў.

— Я сам тут не аднаго лося пакаціў, на гэтым месцы, дзе мы цяпер палуднуем,—кажа Апанас.

— Няўжо іх было шмат, што вы часьцяком рабілі на іх засады,—сказаў я, каб больш заахвоціць яго расказаць нам пра даўнейшае паляваньне.

— Уга, колькі іх было шмат! Цяпер зайцоў столькі не набярэцца, сколькі тады было ласёў ды коз. За сваё жыцьцё я забіў каля двух дзесяткаў ласёў, а пра козы ня пытай—лік згубіў. Праўда, першае паляваньне на лося было вельмі няўдачлівае, бо разам з лосем мяне людзі чуць жывога прыцягнулі да хаты.

— А што такое ў вас было вышла?

— Ды каб сказаць—вышла што важнае—нельга, а толькі лось мяне так пашамятаў, што я яго капыты і цяпер успамінаю. Вось толькі паслухайце.

Было гэта перад самымі калядмі. Той год якраз было шмат сьнегу. Наша вёска вызначалася на сьнегавым моры толькі чорнымі камінамі і віндамі студняў.

У лесе таксама было шмат сьнегу. Зайцы прыбягалі да гумнаў і часта забіраліся ў сярэдзіну, дзе іх лавілі каты і сабакі. Шмат зайцоў перавялі і людзі, ставячы на іх пасткі. Наогул пасьля той зімы зьвярына доўга не магла разьвесьціся.

Цяжкія ласі і козы не маглі хадзіць паверсе сьнегу і танулі ў ім па самае чэрава. Хадзілі больш аднэй вытаптанай сьцежкай. Адна сьцежка была імі вытаптана да гэтага груду.

Трэба сказаць, што ласі толькі і знаходзілі на грудах корм. Балота ўсё было занесена глыбокім сьнегам, а на высокіх грудох сьнегу ня было, бо яго зьдзімаў вецер. Тут ласі маглі паскубсьці старога сіўцу, аб'ядаць з дубняку засохлы леташні ліст.

Шмат хто тады біў ласёў. Задумаў і я папробваць гэта зрабіць. Я ведаў, што ласі прыходзілі на груд пад вечар. Начапіўшы лыжы я прыехаў сюды ў поўдні, і, выбраўшы ў сьнезе каля аднаго куста яму, забраўся туды.

— Чаму вы не маглі зрабіць будкі з яловых лапак, каб туды схавацца,—запытаў Сьвістун.

— Будкі я не зрабіў затым, што лось яе ўбачыў-бы здалёк і павярнуўся назад, бо ён мае вельмі зоркія вочы. А што я сяджу ў сьнежнай яме—гэта ня так лёгка.

Праз гадзіны дзьве, чую, сапе недзе блізка. Падняў я галаву, бачу, кроках у трыццаці ад мяне выходзіць на груд. Рогі, як лапаты, а сам ростам з добрага быка. Вочы агнём гараць. Прылажыўся я ды пальнуў, цэлячы ў персьні. Прабег ён трохі кінуўся няжывы каля гэтай бярозкі.

— Добрая „бярозка“,—кажу я, калі ў двох і то ці абдымеш!

— Ну, гэта яна цяпер такая, а тады была мала чым грубейшая за аглобіну.

Мусіць ужо канчаючыся, лось брыкнуў заднімі нагамі, а мне аж духі заняло. Уваччу пачалі мітусіцца сінія і зялёныя кругі. Неадчуваючы нічога, я паваліўся на сьнег...

— Няўжо ласі так моцна брыкаюцца, —перабіў я Апанасаву гаворку.

— Брыкаюцца!

— А хто вас даставіў да хаты?

— Наткнуўся на мяне нябожчык Янка Даўгей. Ён хадзіў ставіць жалезы на лісоў у Цецяр Бугал і якраз варочаўся праз груд да хаты.

# Зарысоўкі мясцовага краю

**М. І. Касьпяровіч**

Неабходнасьць краязнаўчых зарысовак ня прыходзіцца даводзіць пасьля апублікаваньня В. П. Сямёнавым-Цянь-Шанскім кніжкі „Картографія і иллюстрации в краеведении", дзе ён гаворыць: Быстро развивающееся у нас краеведческое движение обречено на слепоту, если оно не озаботится своевременно правильной постановкой у себя илюстрационного дела в широком смысле,—как картографического, так видового и типового. Пора привыкнуть к тому, что карты и илюстрации должны составлять не менее половины всего краеведческого труда,—только тогда он и не будет хромать[1])... Само собой понятно, что одного только описания явлений, совершающихся на земной поверхности, мало: необходимо дополнительное изображение их размещения, форм и красочных тонов на бумаге или холсте, тем более, что краеведная работа имеет конечной целью своего появления в свет не только книгу, но и наглядный музей, который, вместе с книгой, только и может дать сколько-нибудь полное представление о предмете[2]).

Зразумела, што краязнаўчыя зарысоўкі ніякім чынам ня можна зьмешваць з мастацкімі творамі, у якіх, так або інакш, праз прызму мастака адбіваецца край. „Пора прывыкнуць не смешивать между собой научных и художественных изображений и не пред'являть к тем и другим требований, не свойственных их органической природе",—кажа наконт гэтата той-жа Сямёнаў-Цянь-Шанскі[3]). Краязнаўчыя зарысоўкі маюць мэтаю даць дакладны адбітак прадмету або зьявы для дакладнага ўяўленьня іх. Фотографіі ня могуць тутака выканаць гэту ролю, бо каляровая фотографія пакуль што цалкам недаступна нашым краязнаўцам, ды і наогул слаба распрацавана. Без перадачы-ж колераў, напр., такія азбражэньні, як прадметы народнага мастацтва, трацяць амаль што ўсю сваю навуковую каштоўнасьць. Само сабою ясна, што ад мэтавай установкі цалкам залежыць і спосаб і характар зарысовак. Калі, напр., трэба мець самы ўзор, рысунак орнамэнту,—тады ад паказаньня колераў прыдзецца знарок ухіліцца, калі-ж трэба паказаць спалучэньне фарбаў—бяз іх не абойдзешся. У, так кажучы, сынтэтычным малюнку, які не разьлічаны на якую-небудзь



Будаўнічы орнамэнт

спецыяльную мэту, прыдзецца адбіць рэч так як яна ёсьць, ня выпуклячы таго або іншага ў ёй.

Краязнаўчыя зарысоўкі на Беларусі маюць сваю даўную гісторыю, першыя факты якой нам вядомы нажаль толькі з тае пары, калі беларусаў і Беларусь вывучалі другія, а не самі беларусы. Па загаду Мураўёва мастак Струкаў зрабіў падарожжа па Беларусі, у часе якога зарысаваў шмат помнікаў культавога і грамадзянскага мастацтва. Але паколькі зарысоўкі Струкава не даводзілі, што Беларусь „истинно-русский край", яны былі закінены і адшуканы значна пазьней. Раманавым[1]), пазьней зарысоўкі быту

[1]) В. П. Семенов-Тянь-Шанский. Картография и иллюстрации в краеведении. Ленинград 1926, ст. 3.
[2]) Тамака-ж, ст: 4.
[3]) Тамака-ж, ст. 3.

[1]) Гл. „Записки Сев.-Зап. Отдела Имп. Русского географического Общества", т. III.

і мастацтва насілі ўсё той-жа выпадковы характар і часамі, як, напр., у вядомым альбоме Наполеона Арды, адбівалі прадметы няправільна. Нават пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі і да сяго часу справа зарысовак мала пасунулася наперад і не пазбавілася характару выпадковасьці.

У 1921 г. аўтарам гэтых радкоў рабіліся зарысоўкі іх на Чэрвеншчыне (мал. 5, 6, 7, 8), у 1923 г. ім-жа разам з т. Саковічам былі прадстаўлены на Слуцкую сельска-гаспадарчую выстаўку зарысоўкі народнага, пераважна дойліднага, арнамэнту (мал. 1) у ліку больш 200[1]), якія і былі адзінымі ў надзвычайна багатым аддзеле тканін (мал. 2 і 3). У 1925 г. На Віцебшчыне пры маім-жа ўдзеле адбылася першая спроба плянава-організаваных (Віцебскім Акруговым Таварыствам Краязнаўства) краязнаўчых зарысовак[2]).



Слуцкая выстаўка народнага мастацтва.

У гэтым-жа годзе ў Сьмілавіцкім і Бухавіцкім р. р. Менскай акр. Я. Размысловічам было зроблена 19 зарысовак народных тканін, а ў 1926 г.—90 зарысовак тканіны т. Ракам і інш. у Асіпавіцкім раёне, Бабруйскай акругі. За 1926 і 1927 г. па загаду Інбелкульту рознымі асобамі зроблена каля 20 зарысовак ды некалькі сот зроблена М. Філіповічам і Я. Драздовічам. Вось налічныя першыя ластаўкі вялікай справы, а паміж тым, напр., у справе вывучэньня беларускага мастацтва краязнаўчыя зарысоўкі могуць даць надзвычайна шмат паказаўшы на сувязь паасобных галін народнага і індывыдуальнага мастацтва паміж сабою Слуцкіх паясоў, Віцебскай кафлі (мал. 4), Віцебскай крашаніны, Менскай набіванкі, Віленскай і Вяліскай скульптуры 16—17 век. і Чэрвенскай сучаснай, кніжнага арнамэнту і г. д., выявіўшы беларускі стыль, як такі і д. т. п. Нашым краязнаўчым організацыям трэба сур'ёзна ўзяцца за справу організацыі зарысоўваньня свайго краю і яго жыцьця.

У даным выпадку мы маем разглядзець першую спробу такой організацыі на Віцебшчыне. Тамака праца адбывалася па трох разьдзелах: слоўнікавыя зарысоўкі, краявідныя і зарысоўкі народнага мастацтва.

У справе збору краёвага слоўніка зарысоўкі маюць вельмі вялікае значэньне: калі трэба азначыць дакладна, што ўласна называе данае слова, дык часамі можна зрабіць гэта толькі рысункам. Для Віцебскага краёвага слоўніка рабілі зарысоўку два настаўнікі: Палескі ў Гарадоцкім р. і Сяргеенка—у Высачанскім. Былі зроблены зарысоўкі і інш. асобамі, але яны адзіночныя і выпадковыя.

Палескі прадставіў 105 зарысовак. Зарысоўкі яго паказваюць рэч, як такую, або дэталі яе, пры чым зроблены натольскі дасканала, што даюць поўнае ўяўленьне прадмету.

Да кожнай зарысоўкі дададзена назва яе, месца дзе зроблена зарысоўка, а часам і цэлыя паясьненьні.

Кожная зарысоўка зьмешчана на паасобнай картцы, разьмерам 70×100 мм., што вельмі зручна і дае мажлівасьць кляcыфікацыі зарысовак у любым парадку: па альфабэту слоў, матэрыялу або прызначэньне зарысаваных рэчаў і г. д. Нажаль некаторыя зарысоўкі зроблены сінім антрамантам і, значыць, іх для таго, каб зрабіць клішэ на прадмет апублікаваньня ў друку, трэба перарысоўваць. Не паказаны таксама час зарысоўкі, хоць гэта, праўда, організатарамі справы ў той час і не патрабавалася.

[1]) Пар. „Савецкая Беларусь“ № 198 за 1924 г. Клішэ належаць Віцебскаму Т-ву Краязнаўства.
[2]) Пар. „Віцебшчына“ I, Віцебск 1925, ст. 198.

Сяргеенка—прадставіў 16 зарысовак. Яго зарысоўкі прадстаўляюць рэчы цалкам з паказаньнем дэталяў тут-жа што, ўскладняе малюнак і зьмяншае яго выразнасьць, але дае больш слоў-малюнкаў на зарысоўку. Да таго на некаторых зарысоўках быў дадзены яшчэ і фон сьцяны. Гэта зусім лішняя дэталь, бясспрэчна, не дапамагае ўяўленьню рэчы як такой; зусім другая справа была-б, калі-б аўтар меў мэтай паказаць атачэньне прадмету, але яго трэба-б было тады даць больш выразна. Зарысоўкі зроблены таксама на картках, але рознага памеру. Да кожнай даданы толькі назвы, а месца, час зарысоўкі і аўтар зусім не паказаны. Калі-б яны прадстаўляліся не данаму ўкладальніку Віцебскага Краёвага Слоўніку, які ўсё гэта ведаў, дык-бы страцілі ад гэтага амаль усю сваю каштоўнасьць. Усе зарысоўкі зроблены адным чорным атрамантам, што павялічае іх практычную вартасьць. Апрача Палескага і Сяргеенкі, па некалькі слоўнікавых зарысовак зрабілі: Папіч (Чашніцкі р.), Шаршнёў (Сіраціенскі р.), Аксёнаў (Сіраціенскі р.) і Лядзінскі (Чашніцкі р.). Іх рысункі менш дасканалыя, але нагадваюць прадмет, які азначае слова, а значыць, і дасягаюць мэты. Пры ўсіх ёсьць азначэньні месца зарысоўкі і подпіс.

Краявідныя зарысоўкі рабіліся Е. Мініным у г. Віцебску і Т. Саблікавым у часе геолёгічнай экспэдыцыі проф. Лунгергаўзена па Дзьвіне ад Вяліжу да Віцебску.

Е. Мінін зрабіў вельмі шмат зарысовак Віцебскага краявіду ў сваіх мастацкіх мэтах, ад чаго гэтыя зарысоўкі маюць больш мастацка-краязнаўчы, чым навукова-краязнаўчы характар.

Мусім падкрэсьліць, што яны маюць для краязнаўства ня меншае значэньне, чым навукова-краязнаўчыя.

П. Саблікаў зрабіў 28 зарысовак краявіду р. Дзьвіны. Праз некалькі хвілін па вароце экспэдыцыі ў Віцебск Саблікаў раптоўна памёр і таму большасьць яго зарысовак засталіся без канчатковай апрацоўкі.

Усё-ж усе яны ў цэлым вельмі дакладна адбіваюць морэнны характар краявіду Дзьвіны. У гэтым Саблікаў дасягнуў свае мэты. Паколькі ён ня ставіў сабе іншых мэт, напр., адбіць хараство Дзьвіны, патолькі мы і не павінны прад'яўляць да гэтых зарысовак ніякіх іншых запатрабаваньняў, апрача тых, якія ставіў да іх аўтар.

Апошніх ён дасягнуў так дасканала, што зарысоўкі так і просяцца ў мясцовы музэй. Прынамсі нам невядомы ні фотографіі ні зарысоўкі, якія-б давалі ўласна характар нашай морэны. Зарысоўкі зроблены на паасобных кавалках паперы памерам 178×265 мм. і маюць подпісы зарысаваных месц.



Чэрвенскія паясы

Паколькі Саблікаў, як настаўнік, аддаў зарысоўкам свой летні адпачынак і памёр можна сказаць у экспэдыцыі, мясцовае таварыства краязнаўства павінна-б было паклапаціцца апублікаваньнем яго прац у першую чаргу. Гэта разам з тым, было-б моральным штурхачом для іншых краязнаўцаў.

Зарысоўкі народнага мастацтва рабілі: Пашкевіч і Азгур у Бешанкавіцкім, Чашніцкім і Сеньненскім р. р. Пузынкевіч—у Лёзьненскім р. і Загароўскі і Мірынгоф — у Вяліскім павеце. Усяго 169 зарысовак.

Агульнаю хібаю ўсіх гэтых зарысовак зьяўляецца тое, што яны зьмешчаны па некалькі на адным лісту альбому, так

што для карыстаньня іх прыходзіцца выразаць: а таксама тое, што ў іх атсутнічае паказаньне месца, часу, назвы і аўтара зарысоўкі.

З усяго вышэйказанага выцякае, што зарысоўваць трэба ўсе праявы мясцовага жыцьця ў метах яго дасканалага вывучэньня і адбітку ў музэі. Робячы зарысоўкі трэба старацца, каб зарысоўка была скончанай і дакладна передавала я ктзор, так і колеры. Да кожнай зарысоўкі павінны быць далучаны наступныя весткі: што зарысована, яго матэрыял; дзе зарысована, калі зарысована і хто зарысаваў. Толькі пры гэтых умовах матэрыял будзе мець поўную навуковую вартасьць.



Віецбская кафля

Мы спадзяёмся, што шмат хто з сялянскай гушчы зможа зрабіць зарысоўкі і перадаць іх сваёй акадэміі—мясцовай краязнаўчай організацыі.



па месцы высечанага лесу.



# Культурнае жыцьцё Кітаю

**Зьм. Сьнежка**

Кітай зараз перажывае гістарычную эпоху. Рэвалюцыйны рух 450 мільённага насельніцтва Кітаю — зварочвае да сябе ўвагу працоўных усяго сьвету, бо лёс працоўнага Кітаю зьвязан моцна з лёсам рабоча-сялянскіх мас усіх краін. Сусьветная рэвалюцыя ідзе з Усходу. Вось чаму вывучэньне Кітаю, азнаямленьне з яго гісторыяй, культурай, з асаблівасьцямі быту, робіцца нашай чарговай задачай.

Аб Кітаю мы ведаем мала. Амаль што ўва ўсіх кніжках гісторыі—нічога не напісана пра Кітай. Больш увагі давалі Заходу.

А ў гэты самы час—за вялікай Кітайскай сьцяной, у паўкрузе гор і плоскаўзвышшаў, Кітай утвараў сваю культуру. Больш 3 тысяч год утваралася яна. Шмат розных паўстаньняў, бунтаў, налічвае гісторыя Кітаю. Кітайская культура разьвівалася самастойна і ў старадаўнія часы кітайская культура—была культурай усеазіяцкай. Кітай з больш разьвітай культурай рабіў уплыў на культуры меншых азіяцкіх народаў. Кітай у Азіі меў такое-ж значэньне, як Рым на Заходзе. У 13 сталецьці, калі вялікая Мангольская дзяржава цягнулася „ад Пэкіну да Кіева" кітайская культура рабіла свой уплыў на народы, якія былі бліжэй да Кітаю (напр. Манголія).

Ад гэтага часу мы маем толькі адзін помнік—гэта апісаньні Марко Поло аб Кітаю, дзе ён шмат гаворыць аб культуры Кітаю таго часу. А яна была ня ніжэй культуры Усходу. Культурнае жыцьцё і грамадзянскае было яшчэ больш энэргічным, чымся на Заходзе.

Ужо ў часы Ханскай дынастыі ў Кітаю ўводзіцца чай і пачынае вырабляцца папера. У часы Ганскай дынастыі разьвіваецца друкаваньне, сустракаюцца: порах і компас.

Яшчэ ў першае тысячагодзьдзе да нашае эры ў Кітаю апрацоўваюць жалеза. У той час, калі на Заходзе яшчэ і ня ведалі аб каменным вуглі—Кітай паліў яго на сваіх караблёх.

Ужо ў 8 сталецьці ў Кітаі друкавалася „Сталічная Урадавая Газэта". Гэтая газэта друкавалася ў спэцыяльных друкарнях. Кітайцы мелі свой асаблівы альфабэт, дзе замест літар яны друкавалі іерогліфы*). Кожны іерогліф азначае якое небудзь паняцьце. Усіх гэтых іерогліфаў кітайская мова налічвала звыш дзесяці тысяч. Вось чаму і кітайскія друкарні былі мала падобны на нашы. Шмат працы было зроблена—раней чымся газэта выходзіла ў сьвет, дзе яе таксама разумеў ня ўсякі.

Літаратура пачала разьвівацца за 2½ тысячы гадоў да сучаснага годалічэньня. Ужо ў той час літаратура Кітаю мела свой воблік. І калі ў 18 сталецьці пачалі выдаваць творы кітайскіх выдатных пісьменьнікаў старажытнасьці – то ўсё выданьне заняло 160 тысяч вялікіх кніг (томаў). Росквіт літаратуры Кітаю трэба аднесьці да 600—900 гадоў. У гэты час зьявіліся кітайскія Пушкіны і Гётэ. Лі-Тай-Пэ (702 год)—зьяўляецца лепшым кітайскім клясыкам, Ту-фу—поэта. З іншых поэтаў трэба адзначыць Конг-Фу-Тзе, Чо-Шю-І і інш. Кітайская лірыка мае шмат вайсковых мотываў, гэта затым, што ў Кітаі войны ніколі не заціхалі. „Салдацкія сьпевы", „Пасьля бою", „Сьпевы аб свабодзе".

У творах гэтага часу адбіваўся быт кітайскага селяніна, жабрацтва сярод сялянства і інш. соцыяльныя мотывы.

Пазьнейшыя сталецьці, калі Заход пачаў паднявольваць Кітай, навязваць яму сваю культуру, грабіць Кітай, эксплёатаваць працу кітайскага селяніна—трэба адзначыць, як пэрыод нейкага супакою. Кітай меў і порах, і компас, і вялікую культуру раней чымся Заход, але яе ён ня выкарыстаў так, як Заход. Нявыкарыстаў затым, што дзеля гэтага ня было патрэбнага соцыяльнага і экономічнага грунту. Кітай быў сялянскай краінай. Земляроб ня ведаў машыннай прамысловасьці, яго хатняя гаспадарка давала яму ўсё. І Кітай зачыніўся сам у сабе, а ў той час на Заходзе ішло разьвіцьцё машыннае вытворчасьці. Кітай адстаў.

Апошнія 50 год, калі Кітай таксама

---

*) Іерогліф—значок, які замяняе літару альбо слова Пачалі пісаць іерогліфамі эгіпцяне.

стаў на шлях капіталістычнага разьвіцьця, пачалося разьвіцьцё і новай культуры.

Ня так даўно ў 1911 годзе была рэфарміравана кітайская азбука. Замест 10 тысяч значкоў засталося толькі 3 тысячы. Гэтая рэформа прыблізіла масы да культуры, але і гэтая рэформа мала памагла справе культурызацыі рабоча-сялянскіх мас, у якіх запас слоў вельмі абмежаваны.

Кітай выдае цяпер больш 800 газэт і часопісаў, надрукованых гэтымі кітайскімі іерогліфамі.

У літаратуру пачалі пранікаць рабочыя мотывы. 15-16 гадзінная праца, цяжкія ўмовы жыцьця дома, голад-холад—вось мотывы сучаснай кітайскай поэзіі. Народна-рэволюцыйны рух даў поэзіі Кітаю шмат кароценькіх, але вельмі яскравых вершаў-сьпеваў (вершы ў Кітаі, як і ў Японіі ня чытаюцца, а пяюцца).

У іх адбіваецца супярэчнасьць клясавай барацьбы, розьніца паміж клясамі—протэст супроць гэтай эксплёатацыі рабочых мас. Кітайскі пролетары прачнуўся. Гэта нясе і адраджэньне культуры—і гэтыя адраджэнцкія мотывы, мотывы рэволюцыйнага пафосу змаганьня, мотывы рэволюцыйнай радасьці гучаць у творах новых шэрагаў пісьменьнікаў Кітаю.

Кітай прачнуўся. Ідзе гэраічная барацьба за права будаваць сваё жыцьцё, за права будаваць сваю новую пролетарскую культуру.

А яна ідзе і расквітае пад сьцягамі народна-рэволюцыйнай арміі. Пад сьцягамі комуністычнай партыі Кітаю.

# Бібліографія

## Н. Чарнушэвіч. Дзіва (вершы). Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1927 г., стар 67, цана 30 к

Н. Чарнушэвіч не навічок у беларускай поэзіі, ён знаёмы нашаму чытачу па сваіх ранейшых творах, якія друкаваліся ў беларускіх часопісах (з 1923 году).

Наша літаратура, якая адбівае сучасны быт, стаіць на правільным шляху. Поэзія з тых часоў пашла значнымі крокамі і крытыка ўправе быць з аўтарамі строгай; але бывае досыць часта, што з формальнага боку да яе прыходзіцца прад'яўляць самыя элемэнтарныя запатрабаваньні.

Вершы з грамадзкімі водгукамі ў зборніку „Дзіва" амаль што зусім адсутнічаюць. Найбольш удаліся аўтару, гэта малюнкі, дзе ён апісвае прыроду; „Вецер заснуў у бяздоньні", „Рондо" „Эскіз", „Жытнёвыя ўсьмешкі" і „Ліпнёвы кругабег". Ня кепскія радкі яго вершаў псуюцца агульнай неапрацаванасьцю, яны малакроўныя, расьцягнутыя і вялыя.

Возьмем хоць-бы такія радкі.

„Усё растала,  
абарвана часам,  
як леташні першы сьнег  
Не расчэсвай-жа тугі ў ручайку,  
мо' яна засьне".

„Дзіва"—зборнік лірыкі выключна асабовай, суб'ектыўнай, аб прыродзе, аб каханьні, аб жыцьці і г. д. У ім аўтар клапоціцца аб тым, што можа „заўтра валасы абеліць старасьці закон", то ён сьпявае пеўнем ку-ка-рэ-ку", то ён сур'ёзна хмурыць „чало" і прарочаскі прадсказвае, што шляхі ўсё тыя-ж—на гару вядуць" (65).

Эпіграфам да зборніка аўтар ўзяў словы з аднаго з сваіх вершаў

„Пакуль грае сэрца—  
крок за Рубікон".

У жыцьці словы гэтыя характарызуюць сьмелага чалавека. Аўтар-жа мусіць меў на мэце толькі гістарычны факт з жыцьця Рымскае імпэрыі—пераход Цэзарам праз Рубікон, бо ў сапраўднасьці той матар'ял, які захоплівае аўтара, пры самайа вялікай натузе пераварыць яго ён ня можа; тут аўтар забывае, што ў поэзіі, як і ў артылерыі, пералёт гэтак сама дрэнна, як і недалёт.

Пасьля нашых агульных заўваг, спынімся на самым зборніку. Па свайму ўнутранаму зьместу ён падзяляецца на чатыры разьдзелы (усяго 32 вершы) і, як нам здаецца, па ім можна судзіць аб поэтычным разьвіцьці аўтара. Аб гэтым мы нават можам упэўніцца з тае заўвагі, якую аўтар дадае ў канцы зборніку (чаму заўвага ў канцы зборніку мы ніяк не разумеем) і ў якой ён піша, што першаначальныя вершы зьмешчаны ім у трэцім разьдзеле і даюць „уяўленьне аб першых творчых кроках поэты". Да гэтага аўтар скромненька дадае, што вершы гэтыя друкуюцца „ў нязьменнай рэдакцыі, у якой яны вышлі тады з-пад пяра", заўвагу гэтую прымем да ведама.

Калі і сустракаюцца цікавыя вершы ў зборніку, то яны робяць на чытача ўражаньне, што аўтар не зьяўляецца гаспадаром свае поэтычнае стыхіі.

„У сьветлае новае Сёньня  
пойдзем з табою ізноў",

то яго мары

„Росту просяць  
ў нязнанае заўтра імкненьне".  
(Стар. 19).

Працуючы над вобразамі ў сваіх вершах, ён даволі часта прыходзіць да вычурнасьці іх. Горад аўтар успрымае на вясковы лад. Фабрычная сірэна эдаецца яму „кашляе". (ці чуў аўтар сірэны ў Менску і ці кашляюць яны?); сонца раней чым узыйсьці (па аўтару) паказвае свае „рогі" (54).

„Мастацтва павінна быць перш за ўсё мастацтвам, а потым яно можа быць чым яно хоча",—казаў В. Бялінскі.

С. Бар—кі.



**У гушчыні старога лесу**
(Стара-Дароскі раён, на Бабруйшчыне)

# Паштовая скрынка

**Базылю Дрычку.** Апавяданьне „На досьвецьці“ — не падыходзіць да друку тым, што на дзьвёх старонках Вы старайцеся аформіць вельмі фантастычны сюжэт з парахавымі ўзрывамі, з загаворамі. І вышла ў Вас схэматычна, недаканчана. Наагул сухая інформацыя—расказана аб падзеях без мастацкай апрацоўкі.

**А. Сечку.** Дарэмна Вы, стараючыся ўпікнуць рэдакцыю ў тым, што не зьмясьціла Вашых твораў, называеце „ерундой“ творы тых пісьменьнікаў, ад якіх Вам трэба павучыцца, як пісаць. „На балоце“ не зьяўляецца апавяданьнем. Гэта апісаньне касьбы. Будзе зьмешчана ў газэце, як сэзонны малюнак. Пачытайце адказ папярэдняму таварышу. Верш Ваш друкуем. Наша Вам парада—пабольш працуйце над сабой, чытайце. Вам трэба шмат працаваць. Да мастацкага твору трэба адносіцца ўважліва. Усякі пісьменьнік, нават найвыдатнейшы, усё сваё жыцьцё вучыцца і практыкуецца.

**М. Чашчавіку.** Вершы Вашы паказваюць, што ў Вас ёсьць здольнасьць. Толькі Вы слаба апрацавалі свае творы. Ужываеце дзеясловныя рыфмы „ляжыць“—рыфмуеце з словах „бліщчыць“. Такіх няпрыгожых рыфмаў старайцеся пазбаўляцца. Верш „тканьня“ раім Вам перапрацаваць. Верш напісаны з настроем, і яго магчыма надрукаваць.

**Ю. Бітусу.** „Звон Вясны“ ня пойдзе. Гэтае кароценькае апісаньне вясны магло быць надрукавана як пачатак ці нейкая частка якога небудзь большага твору—апавяданьня, напрыклад.

**Чурынцу.** Верш „Вясновы вечар“ друкавацца ня будзе—слабы. Адсутнічае рыфма. Але гэта не бяда, калі вытрыманы рытм. А ў Вас рытм ня вытрыманы. Ёсьць расійскія звароты. Замест „чутно“ Вы пішыце „чутна“ (націск на першым складзе, па падабенству да расійскага „слышно“, націск таксама на першым складзе).



Галоўлітбел № 25251. Адказны рэдактар Р. Шукевіч-Трацьцякоў.